# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 26 (1572) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 29 ЧЭРВЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.


## ВУЧОНЫЯ ПРА БЕЛАСТОК

Інстытут грамадскіх навук, секцыя сацыялогіі горада Беластоцкай палітэхнікі і Гарадская ўправа ў Беластоку арганізавалі 26-27 мая г.г. канферэнцыю на тэму „Беласток у непасрэдным аглядзе і ў святле сацыялагічных даследаванняў“. На канферэнцыі абмяркоўваліся праблемы сталіцы нашага рэгіёна: рабочы клас Беластока, творчае асяроддзе, студэнты Беластока, універсітэт у горадзе і рэгіёне. Быў таксама даклад пра нацыянальную меншасць у горадзе Беластоку. Ён — плён шматгадовых сацыялагічных даследаванняў дацэнта Андрэя Садоўскага і маладога вучонага мгр Эльжбеты Тарноўскай.

Сярод сацыёлагаў сустракаецца думка, што на Беласточчыне ў натуральных умовах заўважыць можна вялікі сацыялагічны эксперымент, які датычыць сужыцця нацыянальнай меншасці і большасці ў новых грамадска-палітычных умовах. Сістэматычнае даследаванне гэтага працэсу можа даць вельмі цікавыя пазнавальныя і карысныя ў практыцы вывады. У Польшчы, сцвярджаюць даследчыкі, цяпер наступіў прыхільны, добры грамадскі клімат для навуковых даследаванняў і аналізу этніч-

(Працяг на стар. 6)






## ЖЫЦЦЁ — ШКОЛЕ

Выхадзец з вёскі Зубава на Беласточчыне. З сялян. Пяцідзесяцігодак. Вышэйшая адукацыя — магістр беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Педагог па свядомаму і глыбокаму перакананню. Незвычайна працавіты. Дасканалы арганізатар. Так коратка трэба прадставіць Аляксея Карпюка — дырэктара Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання імя Б. Тарашкевіча ў Бельску Падляшскім, дэлегата на X З'езд ПАРП.

У рады Польскай аб'яднанай рабочай партыі ўступіў А. Карпюк у 1964 г., працуючы ў школе ў Орлі. Неўзабаве стаў актыўным грамадска-палітычным дзеячом Гміннага камітэта. Быў выбраны грамадскім сакратаром прапаганды, а потым таксама грамадскім I сакратаром гміннага камітэта партыі ў Орлі.

Прыняўшы ў 1971 г. кіраванне Беларускім ліцэем у Бельску, маючы практыку і цягу да палітычнай дзейнасці, адразу ўключыўся ў павятовы грамадска-палітычны актыў.

Аб дасягненнях, аб працы дырэктар гаворыць не інакш, як праз прызму ліцэя. Несумненна, тое, што сабой прадстаўляе Бельскі беларускі ліцэй, яго ўзровень навучання і выхавання, яго слава і ўсе дасягненні — гэта заслуга ўсяго калектыву выдатных педагогаў, якія тут працуюць. З гэтым сцверджаннем дырэктара нельга не згадзіцца.

Гаворачы аб грамадскай дзейнасці нашага дэлегата, трэба сказаць, што яна вельмі шырокая. Але сёння асабліва адзін яе адрэзак хочацца назваць, менавіта шматгадовую актыўную дзейнасць на ніве Беларускага грамадска-культурнага таварыства, асабліва ў Бельску і вёсках Бельскай зямлі. Цяпер А. Карпюк — член Прэзідыума ГП БГКТ, а ў Бельску — намеснік старшыні Бельскага аддзела БГКТ.

З прыватнага жыцця дэлегата. Жонка Галіна родам са слаўнай сям'і беларускіх дзеячоў Кандрусікаў з-пад Гарадка. Яна — паланіст, выкладае польскую мову ў тым жа беларускім ліцэі. Трое дзяцей у Карпюкоў, з якіх двое, сын і дачка, вучацца ў Савецкім Саюзе. Дачка — на ме-

(Працяг на стар. 2)

З рэпарцёрскіх ЗАПІСАК

## ПАЧЫН У КАЗЛАХ

У Казлы запрасіў нас беларускі паэт, настаўнік Бельскай пачатковай школы № 3 Юрка Баена.

*„Сёння,* — пісаў ён, — *вёска Казлы, што ў 8 кіламетрах на поўдзень ад Бельска, прасіла мяне, каб перадаў я вам вось гэтую просьбу. Сяляне там з вялікім размахам будуюць новую краму. Многа ўжо зрабілі. У нядзелю, 1 чэрвеня, адбудзецца ў Казлах грамадскі пачын і праца пры пабудове гэтай крамы будзе прадаўжацца. Людзі хочуць, каб пры гэтым была таксама і „Ніва“. Калі нехта з членаў рэдакцыі можа прыехаць, людзі запрашаюць...“*

Ад гэтакіх запрашэнняў „Ніва“ ніколі не адмаўляецца. Але ў лісце сябра Юркі была яшчэ дапіска, якая мяне асабліва заінтрыгавала.

*„Хачу яшчэ дадаць,* — пісаў наш карэспандэнт, — *што галоўнай ініцыятаркай пабудовы крамы з'яўляецца старэйшая жанчына Марыя Кос...“*

І такім чынам я апынуўся ў Казлах. Быў святочны дзень, і вёска прывітала мяне цішынёю і сакавітай зелянінай высокіх дрэў, за якімі пахаваліся тыповыя для гэтага кутка нашай роднай Беласточчыны сялянскія сялібы. Крыху пазней даведаўся я, што ў Казлах зараз 24 дзейсныя гаспадары і 26 рэнтыстаў.

Па-суседску з Казламі, у адлегласці няцэлага кіламетра знаходзіцца вёска Райкі. Так яна адзначаецца на дзяржаўных картах. Тут яе называюць пасвойму — **Рэйпічы.** Казлы і Рэйпічы складаюць адно салэцтва а солтысам для дзвюх гэтых вёсак ужо шмат гадоў з'яўляецца Уладзімір Лушчынскі. Дык чаму ён не захацеў прычыніцца да грамадскага пачыну, каб супольнымі сіламі яго аднавяскоўцаў пабудаваць вясковую краму? Няўжо меркаваў, што пабудовай крамаў хай займаецца ГС?

Праехаў я цэлыя Казлы і неяк не заўважыў якой-колечы пабудовы. І толькі за рэчкай Белай, каля вясковай злеўні малака, грамада людзей занята была пабудовай даволі прасторнага драўлянага будынка. Адны сяляне былі на зрубе і рыхтавалі ўжо зацёсы пад кроквы, іншыя шалявалі шчыты, а побач ляжалі нарыхтаваныя, гатовыя да ўстаноўкі кроквы. Адным словам, работа спорылася, нягледзячы на святочны дзень.

Працавала 16 чалавек рознага ўзросту. Найстарэйшым быў Рыгор Семянюк — 88-гадовы дзядуля, даўней вядомы чытачам „Нівы“ як актыўны карэспандэнт, які цяпер збіраўся ўжо напісаць у „Ніву“ пра гэты пачын.

— Ой, добра, што вы прыехалі! — уцешыўся дзядуля. — Мы тут ужо тыдзень часу працуем

(Працяг на стар. 6.)

УВАГА: ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ НОВЫ РАСКЛАД АЎТОБУСАЎ З БЕЛЬСКА.

(Працяг са стар. 1)

# ЖЫЦЦЁ—ШКОЛЕ

дыцыне ў Кіеве, а сын Андрэй у г.г. закончыў Электронны інстытут у Ленінградзе і ад восені там жа паступіць у аспірантуру. Усе дзеці Карпюкоў ад пачатку вучыліся ў беларускіх школах — у „тройцы", а потым у ліцэі Б. Тарашкевіча Глыбокая нацыянальная свядомасць, пашана да сацыялістычнай дзяржавы, арганічная сувязь з беларускай традыцыяй заўсёды панавала ў сям'і Карпюкоў. І акрэслівае яна ўсю выхаваўчую працу іх у адносінах да сваіх дзяцей і ліцэйскай моладзі. Як раз такія якасці прывівае сваім выхаванкам і ўвесь педагагічны калектыў Бельскага беларускага ліцэя, якім ужо 15 гадоў кіруе Аляксей Карпюк.

Папросім цяпер дырэктара Карпюка адказаць нам на некалькі пытанняў.

— У чым, напрыклад, сакрэт масавасці алімпійскага руху ў вашым ліцэі?

— Я чакаў такога пытання, але якраз на яго не хачу цяпер адказваць.

— Чаму?

— Гэта вялікая і важная справа, але ўжо шырока спапулярызаваная. Няхай ніхто не гаворыць, што Карпюк усё хваліць алімпійцамі.

— Хоць скажыце, колькі іх у вас?

— Гэтакая інфармацыя вісіць у нас у калідоры. У гэтым годзе юбілей. Ужо 10 гадоў, як год у год вучні нашага ліцэя выйграваюць у прадметных алімпіядах. За 10 гадоў на ваяводскія спаборніцтвы з ліцэя закласіфікавалася 350 чалавек. На цэнтральныя паехала 57 чалавек. 14 з іх сталі лаўрэатамі цэнтральных алімпіяд. А ў бягучым годзе наша выпускніца Бася Такаюк заняла другое месца ў краіне ў біялагічнай алімпіядзе і ў канцы чэрвеня г.г. паехала ў Чэхаславакію ў Прагу на міжнародныя спаборніцтвы.

— Якіх алімпійцаў найбольш?

— Найбольш па ведах аб Польшчы і сучасным свеце. Гэта алімпіяда мае палітычны, праграмны характар, і мы цешымся, што наша моладзь праяўляе такое вялікае заангажаванне ў гэтай галіне.

— Раскажыце крыху пра педагогаў ліцэя!

— Калектыў складаецца з 20 штатных і 4 з няпоўным штатам настаўнікаў. У нас усе магістры. Палавіна мае дадаткова падыпломную адукацыю па сваёй спецыяльнасці. Калектыў вельмі стабільны. Было многа прапаноў маім настаўнікам перайсці на дырэктароў, метадыкаў, а яны не пайшлі. Я вельмі з гэтага задаволены. Нашы настаўнікі — людзі цяжкай працы. Вымагаюць не толькі ад вучняў. Пастаянна вымагаюць ад сябе. У калектыве была праведзена вялікая ўнутрышкольная работа па самаадукацыі. Мы рашылі, што наша школа павінна розніцца не толькі тым, што яна беларуская. Мы сказалі: каб будаваць яе аўтарытэт, нам патрэбны добрыя вынікі. Самаадукацыя праводзілася шляхам распрацоўкі розных надзённых тэмаў, напрыклад, роля ацэнкі, праца са здольным вучнем, праблемнае навучанне і г.д. Вяліся сяброўскія ўрокі — значыць: адны настаўнікі ішлі на ўрокі другіх, а потым дзяліліся вопытам і ўражаннямі. Самаадукацыйная праца ў нас прадаўжаецца.

— Хацелася б крыху шырэй пачуць пра вынікі працы школы.

— Наша школа вельмі вырасла. Да майго прыходу выпусціла яна 856 выпускнікоў. Цяпер маем 2244 нашых вы-

(Працяг на стар. 3)

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## ПАСЛЯ РЭКАНСТРУКЦЫІ

Узрасла магутнасць фабрыкі камвольнай пражы Пінскага вытворчага прадзільна-трыкатажнага аб'яднання. Кожны рубель, затрачаны на тэхнічнае перааснашчэнне цэхаў, даў прырост прадукцыі больш чым на дзесяць рублёў.

На гэтым буйнейшым прадпрыемстве краіны праектныя магутнасці, разлічаныя на выпуск 12 мільёнаў трыкатажных вырабаў у год, ужо даўно перакрыты. А магчымасці далейшага нарошчвання вытворчасці стрымліваў дэфіцыт сыравіны. Вось таму ў якасці першачарговых аб'ектаў рэканструкцыі і была выбрана фабрыка, дзе рыхтуецца пража.

## РАЯЦЦА МЕДЫКІ

У Мінску адбылася нарада экспертаў краін — членаў СЭУ, на якой разглядаліся пытанні развіцця медыцынскай тэхнікі, паляпшэння стаматалагічнай дапамогі насельніцтву.

Галоўныя стаматолагі і вядучыя спецыялісты, кіраўнікі спецыялізаваных навуковых цэнтраў і прадпрыемстваў, якія выпускаюць вырабы для гэтай галіны медыцыны, канструктары і інжынеры краін сацыялістычнай садружнасці вызначылі на нарадзе прыярытэтныя напрамкі, па якіх у бліжэйшыя гады будзе развівацца стаматалагічная тэхніка іх краін, выпрацавалі план комплексных мерапрыемстваў у рамках міжнароднай кааперацыі.

На аглядзе медыцынскай тэхнікі прайшлі нацыянальныя Дні краін, якія прынялі ўдзел у выстаўцы. Першы з іх правялі арганізацыі аховы здароўя Савецкага Саюза.

## УНІКАЛЬНАЕ... НА КАНВЕЕРЫ

Як распазнаць сярод ста мільёнаў чалавек за пяць мінут аднаго адзінага? Для чалавека такая праблема проста невырашальная. А вось падобная задача, толькі ў адносінах да малекул, паспяхова вырашаецца з дапамогай унікальных фізічных прыбораў — унутрырэзанатарнага спектрометра і вадкаснага храматографа. Іх выраб пачаты на Мінскім доследна-вытворчым прадпрыемстве навукова-тэхнічнага аб'яднання АН СССР.

Навінкі нават цяжка назваць прыборамі — хутчэй гэта аўтаматызаваныя комплексы для даследавання прыроды рэчыва, гаворыць дырэктар прадпрыемства, член-карэспандэнт АН БССР В. Буракоў. Цяпер з іх дапамогай вучоныя змогуць вызначаць самыя малыя прымесі ў вывучаемым матэрыяле ў тысячы разоў дакладней, чым раней. Гэта рэзка павысіць якасць даследаванняў і прадукцыі ў тых сферах, дзе выкарыстоўваюцца звышчыстыя рэчывы...

Спектрометр вынайшлі ў Інстытуце фізікі Акадэміі навук рэспублікі. Дзякуючы новаму прыбору неўзабаве ў даведніках могуць з'явіцца важныя ўдакладненні, характарыстыкі невядомых высокамалекулярных злучэнняў і матэрыялаў. Храматограф, распрацаваны ў Ленінградскім інстытуце аналітычнага прыборабудавання, не мае аналагаў у сусветнай практыцы. Ён вызначаецца высокай адчувальнасцю, нават калі даводзіцца аналізаваць вельмі малыя аб'ёмы рэчыва.

Унікальную прадукцыю мінскага прадпрыемства з нецярпеннем чакаюць даследчыкі такіх прыярытэтных галін, як малекулярная біялогія, біяарганічная хімія, генная інжынерыя.

## ЗАКЛАЛІ САД

Ля маляўнічага возера Малочнае каля Гродна моладзь завода аўтамагнітол заклала сад у гонар землякоў, якія загінулі ад рук фашысцкіх захопнікаў. На расчышчаных ад буралому пнёў і сухіх дрэў пляцоўках хлопцы і дзяўчаты пасадзілі яблыні, грушы, вішні. У цэнтры пасадак яны стварылі земляны ўзгорак, у які заклалі капсулу са зваротам да моладзі 2000-га года берагчы і ўпрыгожваць родную зямлю.

## СПОРТ

15-гадовая мінчанка Марына Лобач і яе балгарская аднагодка Біянка Панова сталі пераможцамі турніра ў Токіо. У мнагаборстве яны набралі аднолькавую суму 39,550 бала.

Панова, атрымаўшы вышэйшы бал — 10 — за практыкаванне са скакалкай, дапусціла памылку ў кампазіцыі з булавамі. М. Лобач аднолькава моцна выступіла ва ўсіх відах.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## ВЕТА Ў САВЕЦЕ БЯСПЕКІ

ЗША і Англія зноў паўсталі перад усім светам як натхніцелі дзяржаўнага тэрарызму, апекуны расісцкага рэжыму ПАР.

Яны наклалі вета на рэзалюцыі Савета Бяспекі ААН з рашучым асуджэннем Прэторыі за нядаўнія ўзброеныя налёты на Батсвану, Замбію і Зімбабве. У праекце групы недалучаных краін, за які прагаласавалі 12 дзяржаў (Францыя ўстрымалася), адзначалася, што палітыка расісцкай дзяржавы стварае пагрозу міжнароднаму міру і бяспецы. Савету Бяспекі было прапанавана ўвесці эканамічныя і іншыя санкцыі ў адносінах да Прэторыі ў якасці эфектыўнага сродку барацьбы з сістэмай апартэіду і забеспячэння міру і стабільнасці на поўдні Афрыкі. Сваёй акцыяй Вашынгтон і Лондан толькі пацвердзілі выказаную ў дакументе ўпэўненасць у тым, што сістэма апартэіду „захоўваецца з-за палітычнай і эканамічнай падтрымкі расісцкага рэжыму ПАР некаторымі краінамі".

Як адзначылі ў ходзе дыскусіі амаль усе прамоўцы, агрэсія расістаў — злачынства не толькі супраць трох „прыфрантавых" дзяржаў, але і супраць міру і бяспекі ва ўсім свеце. Самаму рашучаму асуджэнню падвергліся і тыя, хто аказвае рэжыму Прэторыі ваенную, эканамічную і дыпламатычную падтрымку ў духу праславутага „канструктыўнага супрацоўніцтва", хто аберагае яго ад санкцый, падае яму прыклад тэрарызму, узведзенага ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Аб гэтым гаварылі ў Савеце Бяспекі прадстаўнікі Балгарыі, Кубы, ГДР, Ірана і многіх іншых краін.

## ШТО РОБЯЦЬ У БОНЕ З НАЦЫСЦКІМІ „ШЭДЭЎРАМІ"?

Адміністрацыя Рэйгана, задаволіўшы запыт ФРГ, накіроўвае туды 6.255 карцін гітлераўскіх мастакоў.

Гэтыя карціны пасля капітуляцыі фашысцкай Германіі апынуліся ў распараджэнні ваеннага ведамства ЗША. У парушэнне патсдамскіх пагадненняў іх тайна пераправілі за акіян. З таго часу „шэдэўры" нацызму беражліва захоўваліся ў запасніках Пентагона, клапатліва рэстаўрываліся і нават час ад часу выстаўляліся.

„Жэст добрай волі", як характарызуюць гэты дар афіцыяльныя прадстаўнікі ЗША і ФРГ, зроблен, відаць, з улікам палітычнай сітуацыі. Прасочваецца надзея на тое, што вяртанне ў ФРГ нацысцкага жывапісу выклікае „добры жэст" у адказ — прыліў энергіі ў рэваншыстаў, прыхільнікаў перагляду пасляваенных граніц у Еўропе, і дапаможа збліжэнню ўльтраправых дзеячоў з ЗША з іх аднадумцамі ў ФРГ.

Фашысцкая мазаніна ў афіцыяльных дакументах далікатна называецца „ваенным мастацтвам". Яна адлюстравала перамогі гітлераўцаў у Францыі, „вызваленчую місію" трэцяга рэйха на Усходзе, украінскія вёскі ў агні, масавыя расстрэлы і катаванні людзей. Вось гэта самае „мастацтва" 41 год назад выратавалі амерыканскія салдаты па загаду генерала Эйзенхаўэра ад гневу народаў.

Афіцыяльны Бон заявіў, што канчатковае рашэнне аб лёсе карцін гітлераўскай Германіі яшчэ не прынята. Што ж будуць рабіць у Боне з нацысцкімі „шэдэўрамі"?

# БУДЗЕ НОВАЯ ШКОЛА

Вельмі ўрачыста святкаваўся сёлета ў Нарве Дзень дзіцяці. Дзень гэты стаў тут гістарычным: ва ўрачыстай атмасферы, у прысутнасці шматлікіх гасцей і жыхароў мястэчка быў умураваны Акт пабудовы новай школы, такой тут патрэбнай і доўгачаканай.

Сабраліся на школьным стадыёне. Усе вучні ў белых блузачках і кашульках, цёмных спадніцах і нагавіцах. Выстраіліся класамі са сваімі настаўнікамі, каб прывітаць гасцей, паслухаць тэкст самога Акту пабудовы і выказаць сваю радасць, што хутка будзе новая школа. Насупраць іх, на трыбунах стадыёна — шматлікія запрошаныя госці з Беластока, Гайнаўкі, дэлегацыі дзяцей і настаўнікі з суседніх школ гміны, а таксама бацькі дзяцей, нават дзядулі і бабулі, і не толькі з Нарвы, але і з суседніх вёсак.

Пасля шматлікіх прывітанняў і пажаданняў дзецям у Дзень іх свята і ў сувязі з пачаткам пабудовы новай школы быў урачыста зачытаны Акт пабудовы, у якім гаварылася, што ў старажытным мястэчку Нарва на 42-ім годзе існавання Народнай улады будзе пабудавана новая прыгожая школа з 18 класнымі пакоямі, з гімнастычнай залай, святліцай, бібліятэкай, сталоўкай і іншымі патрэбнымі школе памяшканнямі, за 240 мільёнаў злотых. Інвестарам пабудовы з'яўляецца Куратoрыя асветы і выхавання, а выканаўцам — Бельскае прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва.

Праца на пляцы будовы пачалася ўжо восенню мінулага года. Да 1 чэрвеня былі закладзены фундаменты галоўнага будынка і ўзведзены сцены першага паверха. Створаны быў грамадскі камітэт пабудовы школы, старшынёй якога стаў старшыня бацькоўскага камітэта школы Мікалай Касько. Патранат над пабудовай школы ўзяла на сябе гмінная рада ПРОН на чале з Данілам Раманскім.

Побач са школай расце вялікі (на 18 кватэр) будынак для настаўнікаў. Плануецца таксама пабудова ачышчальні сцёкаў на самым беразе Нарвы.

Як бачым, паўстае школьны аб'ект, які хацелі мець жыхары Нарвы. Пабудова такой школы — гэта значнае намаганне дзяржавы, вялікі кошт, асабліва ў такі цяжкі для нашай гаспадаркі час. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, маючы на ўвазе патрэбы школьніцтва нашага ваяводства і надыходзячы дэмаграфічны ўзрост, на сённяшні дзень у нашым ваяводстве будуецца 21 падстаўовая школа і 19 школ разбудоўваецца. Толькі сярод блізкіх нам ваколіц у мінулым годзе пачалі будавацца школы, апрача Нарвы, у Саколцы, і тры ў Беластоку. А ў гэтым годзе пачынаецца пабудова школы ў Орлі, Лапах, Драгічыне і дзве ў Беластоку. Многія школы разбудоўваюцца і дабудоўваюцца гаспадарчым спосабам. Асабліва спраўна гэта ўдаецца школам у Бельску (№ 3 і № 1), у Гайнаўцы (№2), у Дубяжыне, Саках, Наваколніне, Старым Корніне, Грабаўцы, Шудзялаве.

Святочнасці настрою на стадыёне дадаваў вялікі школьны духавы аркестр з Лап, які быў запрошаны на гэтую ўрачыстасць. Аркестр выступіў са спецыяльным паказам — ігрой у час маршу з перастраеннямі. А вучні школы выступілі з канцэртам — вершамі і песнямі.

Пасля гэтага Акт пабудовы, напісаны на „старым пергаменце", падпісалі ганаровыя госці, а выбраныя найлепшыя вучні школы запакавалі яго ў спецыяльна вытачаны ў нараўскім ПОМе металічны карабок, а потым урачыста занеслі яго і паклалі ў падрыхтаванае месца ў фундаменце. А кожны з запрошаных гасцей, гаспадары гміны і прадстаўнікі вучнёўскага калектыву кінулі па кельні бетону на закладзены ў мур Акт пабудовы школы. Першымі сваю порцыю бетону кінулі I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Уладзімір Каладзеюк, беластоцкі ваявода Мар'ян Гала, куратар асветы і выхавання Эдвард Крынскі, прэзес ВК ЗСЛ Рышард Нівінскі, а пасля прадстаўнікі ТПД, а таксама госці з Гайнаўкі, Бельска і мясцовыя ўлады.



Старшыня грамадскага камітэта пабудовы школы Мікалай Касько разам з дырэктарам школы Янкам Іванюком падаюць запрошаным прадстаўнікам улады Акт пабудовы для падпісання. Адным з падпісваючых быў начальнік гміны Міхась Врублеўскі.



У прысутнасці I сакратара ВК ПАРП Уладзіміра Каладзеюка, беластоцкага ваяводы Мар'яна Галы і начальніка гміны ў Нарве Міхася Врублеўскага вучні разам з дырэктарам школы Янкам Іванюком упакоўваюць Акт пабудовы.

На заканчэнне ўрачыстасці начальнік гміны Міхась Врублеўскі сказаў:

— Шматгадовыя старанні аб пабудове школы нарэшце закончыліся ўдачай. У Нарве будзе новая школа! Разумеем, што пабудова такой школы каштуе намала і чакае нас вялікая праца. Веру, што і грамадства, і будаўнікі зробяць усё, каб школа будавалася хутка і згодна з планам.

А дырэктар Бельскага прадпрыемства сельскагаспадарчага будаўніцтва Янка Мікалушка пацвердзіў, што галоўны будынак будзе гатовы праз два гады, бо іх прадпрыемства расцягваць работу не любіць.

Верым, што так яно і будзе. І абяцаем інфармаваць нашых чытачоў аб ходзе працы на будове.

Свята дзяцей у Нарве закончылася спартыўнымі спаборніцтвамі.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



Момант умуроўвання Акта пабудовы. Сваю порцыю бетону кідае беластоцкі ваявода Мар'ян Гала. Запрошаныя госці.

(Працяг са стар. 1)

## З рэпарцёрскіх запісак

# ПАЧЫН У КАЗЛАХ

ад усходу да захаду сонца, каб закончыць гэтую пабудову да сенакосаў.

З другога боку, за рэчкай, стаіць пастарэлы грамадскі будынак, у якім памяшчаецца вясковая святліца. Яго калісьці казляне таксама пабудавалі грамадскім чынам. Частку гэтага будынка займае гандлёвы пункт



Марыя Кос першая пачала намагацца, каб у Казлах пабудаваць асобнае памяшканне для патрэб вясковай крамы.

падсобнага продажу, коратка кажучы, вясковая крама. На жаль, гэтае памяшканне для патрэб гандлю, асабліва харчовымі прадуктамі, зусім не прыгоднае. Здарылася нават і так, што санітарная інстанцыя загадала закрыць гэтую краму.

Тады рэйпічане, каб мець дзе купляць тавары, рашылі дабудаваць тры сценкі да ўласнай святліцы і там абсталяваць вясковую краму. Ужо нават запасліся жвірам, каб зрабіць пусталкі.

Даведалася аб гэтым Марыя Кос. Гэта, сапраўды, ужо старэйшая жанчына, рэнтыстка, і муж яе, Іван, таксама ўжо рэнтыст.

— Падумала я, — гаворыць яна мне, — то ж у нас, у Казлах, аж 26 рэнтыстаў! Дзе ж нам хадзіць за пакупкамі аж на канец Рэйпіч!

І пачала пераконваць аднавяскоўцаў, у першую чаргу рэнтыстаў, каб падалі просьбу і ў Бельскі ГС, і ў Бельскую гмінную ўправу, каб гэтую краму абсталяваць не ў Рэйпічах, але зараз жа за рэчкай, ля злеўні малака, каб і казлянам, і рэйпічанам было аднолькава зручна. 22 лістапада 1985 года адправілі яны заяву пра неабходнасць пабудовы крамы.

Начальнік разам з прэзасам узялі гэты факт пад увагу. Казляне атрымалі бясплатна драўляны жылы будынак, які ў Бельску прызначаўся на знос. ГС падкінуў крыху цэменту на фундамент і паабяцаў пастарацца пра іншыя будаўнічыя матэрыялы.

У лютым 1986 года ў Казлах пачаў дзейнічаць грамадскі камітэт пабудовы крамы ў складзе: Сцяпан Яканюк, Сяргей Юзэфчук, Марыя Кос і Уладзімір Галёнка. 12 красавіка г.г амаль цэлай грамадою выбраліся казляне ў Бельск, каб разабраць прызначаны ім будынак і перавезці яго ў сваю вёску. Сваіх трактароў і ўласнага паліва не пашкадавалі: Сяргей Юзэфчук, Сцяпан Яканюк, Уладзімір Лапацюк, Аляксандр Семянюк і Павел Салоўскі. Уласным аўтамабілем у Бельск вазіў аднавяскоўцаў Уладзімір Галёнка.

* * *

Сярод 16 прысутных на пабудове сялян знайшліся і мясцовыя цесляры: Уладзімір Лапацюк, Аляксандр Амельянюк Аляксандр Аверчук.

— А чаму сярод вас няма солтыса? — пацікавіўся я.

— Солтыс сказаў, што яму хутчэй на далоні трава вырасце, чымсьці мы пабудуем гэтую краму, — адзначыў адзін з сялян. Дзіўна. Чаму?

— Мяне ніхто не прасіў на гэты пачын! — адказаў мне солтыс Уладзімір Лушчынскі, а я падумаў, што грамадскі пачын — гэта не сваяцкая гасціна, на якую без запрашэння нельга паяўляцца. Усё рабілі за маімі плячыма, — дадаў яшчэ солтыс. — А я тут не адзін пачын ужо наладзіў...

Калі я бліжэй прыгледзеўся да паводзін солтыса, дык аказалася, што ўсё зводзіцца да даўно закаранелых суседскіх сварак адных сялян з другімі. Важна тое, што непасвараная частка вёскі дружна ўзвяла трывалы будынак для патрэб вясковай крамы, якая будзе служыць усім жыхарам і Казлоў, і Рэйпічаў.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара



Жыхары вёскі Казлы Бельскай гміны ў нядзелю, 1 чэрвеня 1986 г., грамадскім чынам будавалі вясковую краму.

(Працяг са стар. 1)

## ВУЧОНЫЯ ПРА БЕЛАСТОК

най структуры польскага грамадства. За апошні час паявіліся вельмі цікавыя навуковыя публікацыі, якія ў большай ці меншай меры датычаць беларускай нацыянальнасці ў Польшчы, паявіліся артыкулы ў навуковых і публіцыстычных часопісах, праводзяцца на гэтую тэму навуковыя і папулярна-навуковыя канферэнцыі, беларуская праблематыка паяўляецца ў дзейнасці розных інстытутаў. Але ўсё ж стан ведаў грамадства пра нацыянальныя меншасці ў Польшчы няпоўны і стэрэатыпны. А яны неабходны для правільнага фарміравання далейшых міжнацыянальных адносін у польскім грамадстве.

Прадметам зацікаўлення даследчыкаў з'яўляецца прадстаўленне рэальнага вобразу беларусаў у Беластоку. Даклад абапіраюць яны на выніках сацыялагічных даследаванняў над пераменамі беларускай меншасці ва ўмовах пераходу з вёскі ў горад. Даследаванні праводзіліся ў 1971-73 гадах і дапоўнены новымі інфармацыямі з свабодных размоваў з многімі прадстаўнікамі беларускага асяроддзя. Перш за ўсё даследчыкі падаюць колькасную ацэнку беларусаў у Беластоку і прыходзяць да вываду, што тут жыве 50 тысяч беларусаў.

А. Садоўскі і Э. Тарноўская разглядаюць традыцыйныя нацыянальныя вартасці беларусаў у горадзе, адносіны да рэлігіі, да роднай мовы, задумваюцца над тым, што ўплыло на занядбанні ў навучанні беларускай мовы, асабліва ў горадзе.

З даклада можна шмат даведацца аб асноўных формах дзейнасці беларусаў у Беластоку. Аб тым, наколькі навуковы і добрасумленны фундамент артыкула, сведчаць дакладныя табліцы, поўныя лічбаў, між іншым аб ліку і адукацыі членаў БГКТ (разглядаецца гарадскі аддзел БГКТ). Найбольш членаў маладых, да 30 гадоў. Старэй-

## ВАЕННЫЯ СЦЕЖКІ

# ВЯРТАННЕ

Калі адгрымелі прывітальныя маршы і высокапатрыятычныя прамовы аб салдатах-бадзягах, якія са славай пераможцаў вяртаюцца на радзіму, змораную вайной, у краіну, якая лечыць свае раны і патрабуе кожнай пары рук, каб будаваць новы, справядлівы, дэмакратычны лад, заснаваны на ўладзе рабочых і сялян, тады накіравалі іх у нейкія, бадай яшчэ нямецкія казармы.

— Было гэта, здаецца, у 1946 або ў 1947 годзе, — задумваецца Іван Бартнічук. — Цяпер мне ўжо цяжка прыгадаць.

Я яму не здзіўляюся. Хто з нас з дакладнасцю да аднаго года можа сказаць, што ў яго жыцці здарылася 40 гадоў таму назад? На шчасце, у архівах захаваліся дакументы. Вядома, для прыкладу, што вяртаючымся салдатам і афіцэрам з казны польскага Часовага ўрада нацыянальнага адзінства выплацілі аднаразова толькі ў 1946 годзе звыш 2 мільёнаў злотых. Марскім шляхам з Вялікабрытаніі ў Гданьск толькі на працягу месяцаў студзеня і лютага 1946 года вярнулася з Англіі звыш 22 тыс. салдат. Арганізаваная рэпатрыяцыя Польскіх Узброеных Сіл з Захаду спынілася 17 лютага 1946 года. Так рашыў Часовы ўрад нацыянальнага адзінства ў адказ на адмоўныя адносіны каралеўскага ўрада Вялікабрытаніі да таго, каб Польскія Узброеныя Сілы на Захадзе перадаць пад кантроль краёваму камандаванню Войска Польскага. У дыпламатычнай ноце, накіраванай ураду Вялікабрытаніі 17 лютага 1946 года, сцвярджалася:

„...Ад сённяшняга дня польскія сухапутныя, марскія і паветраныя ваенныя часці, якія знаходзяцца яшчэ на Захадзе, не могуць надалей прызнавацца састаўной часткай Войска Польскага. Таму Урад нацыянальнага адзінства патрабуе, каб гэтыя часці былі адразу распушчаны і не маглі карыстацца правам насіць польскія дзяржаўныя знакі і польскія вайсковыя знакі адрознення.

Астаўшыеся афіцэры і салдаты былых польскіх атрадаў змогуць вяртацца ў краіну пасля паасобнага праяўлення гэтага жадання ў консульствах Рэчыпаспалітай...".

З усяго гэтага вынікае, што Іван Бартнічук вяртаўся на радзіму ў пачатку 1946 года.

— Я плыў другім транспартам, — кажа даўнейшы монтэкасінец.

— Значыць, вы не спяшаліся, — заўважаю.

— А да чаго было мне спяшацца!? — усклікае сын вясковага пастуха. — Я ж гаварыў вам ужо, як жылі мы ў панскай Польшчы. Зямлі было ў нас столькі, што шапкай прыкрыць, адзін хлеў і той плецены з ядлаўцовых прутоў і абы-як абкінуты глінай, а нас у сям'і — трох братоў і яшчэ чатыры сястры, якія азіраліся на пасаг... Чакала мяне батрацкая доля... Так мне тады здавалася...

— Трэба было аставацца вам у Англіі, — гавару я дзядулі, каб справацыраваць яго да шчырага прызнання.

— Аставацца ў Англіі! — з нейкай іроніяй паўтарыў ён мае словы. — А хто мяне хацеў у той Англіі?

Мы замоўклі. Зрабілася неяк сумна. Я глядзеў на яго твар, на глыбокія, пачарнелыя маршчыны, якія сведчылі аб працавітым жыцці, аб змаганні за хлеб штодзённы, за ўладкаванне сярод людзей сваіх уласных дзяцей.

— Шэсць гадоў я бадзяўся па свеце, — зноў глыбока ўздыхнуўшы, яшчэ раз адзначыў пастарэлы ветэран. — Ці вы ведаеце, што гэта такое туга па родных старонках, па спагадлівых

шых членаў — невялікі працэнт, які павышаецца ў групе пенсіянерскага ўзросту. Найбольш членаў БГКТ з прафесіянальнай школай і сярэдняй адукацыяй. У большасці гэта рабочыя і служачыя. Даследчыкі высока ацэньваюць дзейнасць гарадскога аддзела БГКТ і падаюць важныя функцыі, якія ён выконвае ў беларускім асяроддзі: функцыю прыспасаблення да гарадскіх умоў і актыўнай дзейнасці ў арганізацыі, функцыю інтэграцыі — сувязі беларусаў, функцыю пазнавальную — інфармацыя членаў аб жыцці ў БССР, СССР і Польшчы, функцыю ідэалагічную — фармаванне беларускай нацыянальнай свядомасці і функцыю забавы — арганізацыя вольнага часу. Даследчыкі звяртаюць увагу на магчымасці сувязі ў дзейнасці беларусаў: „Ніву“, радыёперадачу, кніжкі, беларускае савецкае тэлебачанне. Але колькасць беларусаў, якія сістэматычна карыстаюцца дасягненнямі беларускай культуры, нешматлікая. Ёсць аднак група, якая не пасіўна засвойвае беларускую культуру — яна актыўная, творчая.

Ад пачатку 1980 года ў Беластоку з'явіліся новыя формы грамадскай дзейнасці, між іншым, Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці. Студэнты звяртаюць асаблівую ўвагу на родную мову, на гістарычную і нацыянальную свядомасць: „Я — беларус, і не таю гэтага, шукаю кантакту з такімі, як я“. У дакладзе падробна прадстаўляецца праграма дзейнасці маладзёжных груп і звяртаецца ўвага на розніцы падыходу да тэмы нацыянальнасці. Цікава, добрасумленна і шматбакова разгледжана ў артыкуле праблема асіміляцыі, навукова падзелены тыпы нацыянальнай свядомасці беларусаў. Гэта — „праваслаўныя“ (радзей „тутэйшыя“), „праваслаўныя палякі“, „палякі беларускага паходжання“, „польскія беларусы“ і „бе-

(Працяг на стар. 8)

## АДНА З ЛЕПШЫХ

Кафлярня ў **Гарадку** — адна з лепшых у нашым рэгіёне. На яе вырабы не паступаюць рэкламацыі. Купіць іх можна перш за ўсё на складах будаўнічых матэрыялаў у ГСах у Гарадку, Крынках, Нарве і Нараўцы.

У мінулым годзе гарадоцкія керамікі выпрадукавалі звыш 270 тысяч кафляў і больш чым паўмільёна місачак для знічаў за дзевятнаццаць мільёнаў злотых. Прадукцыйны план быў значна перавыкананы. Растуць тут таксама месячныя зарплаты ўсяго 22-асабовага калектыву.

У студзені і лютым бягучага года з Гарадка на рынак паступіла 38 тысяч кафляў, але таксама ажно 126 тысяч керамічных місачак (план прадукцыі гэтых апошніх быў рэалізаваны ў 185 працэнтах). Місачак просяць спулдзельні інвалідаў у Шчучыне і Ольштыне, а таксама беластоцкая Хімічная спулдзельня працы „Бэтэска“.

Кіраўнік кафлярні, **Уладзімір Саеўскі** цвёрда намераны яшчэ сёлета купіць навейшае абсталяванне для прадпрыемства — механічны прэс. Пры лепшай механізацыі некаторых работ значна павысіцца прадукцыйнасць працы гарадоцкіх керамікаў.

(ЯЦ)

## КАНТРОЛЬ

У Бельскай гміне кантрольныя групы пабывалі ў 57 мясцовасцях, у якіх пракантралявалі 4217 гаспадароў, 92 прадпрыемствы, 132 гандлёвыя аб'екты, 11 школ, 28 прыпынкаў ПКС і ПКП. Аштрафавалі 76 гаспадароў. Самай акуратнай і чыстай вёскай аказаліся Праневічы.

У самім жа Бельску аштрафавалі 6 асоб, а справы дзвюх асоб накіравалі ў карную калегію. У мінулым годзе было больш штрафаў, на суму амаль сарака тысяч злотых. Значыць, з кожным годам усё чысцей нам жывецца.

**А. Гаўрылюк**

## НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na notatkę prasową zamieszczoną w „Niwie" z dnia 11.05.1986 dotyczącej stanu dwóch odcinków dróg we wsi Kotły wyjaśniam co następuje:

— Ustalono z samorządem wsi, iż w okresie między sianokosami a żniwami na terenie wsi zostanie zorganizowany czyn społeczny mieszkańców wsi przy naprawie dróg;

— o dokładnej lokalizacji robót zadecyduje samorząd, najlepiej znający pilność swoich potrzeb;

— tutejszy Urząd udzieli pomocy w zabezpieczeniu sprzętu do załadunku, równania mas ziemnych oraz fachowy nadzór.

Jak wykazała praktyka lat ubiegłych mieszkańcy wsi Kotły potrafią zmobilizować się do tego rodzaju przedsięwzięć. Rozmiar zadań wykonanych w czynie społecznym w ostatnich latach jest dość znaczny. Mogę więc mieć i tym razem pewność, iż mieszkańcy zaangażują się w realizację zadań czynowych w zakresie drogownictwa. Zostanie pozytywnie załatwiona sprawa poruszona w Tygodniku „Niwa". Bielsk Podlaski, dnia 4.06.1986 r.

Naczelnik Gminy
w Bielsku Podlaskim
**Michał Czołomiej**

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



Шляхецкі двор пад гонтай з XIX стагоддзя ў Такарах гміна Мельнік. Графіка У. Петрука.

## ЧАСЫ І ЛЮДЗІ

(Працяг са стар. 4)

тэлькі было салодшае ад малака ў грудзях. А найлепш, калі ўвесь час толькі грудзі даеш.

— Гэта толькі мы калісьці, пані Зыта, — адазвалася старэйшая жанчына, — кармілі год, паўтара, а то і два гады. Цяпер так не хочуць.

*

— Ну, скажыце вы, і час настаў, што ніхто не хоча дзяцей пільнаваць, — кажа маладая жанчына старэйшай.

— Трохі гэта здзіўляе, а трохі не. Цяпер амаль усе старэйшыя людзі на пенсіі. Вось, напрыклад, у нашай вёсцы. Спярша пільнавала Ясечыха і пакойная бабка Піліпча. А цяпер што? Ясечыха пенсію мае, а Піліпча, каб жыла, то яшчэ, пэўна, пільнавала б, бо даволі жвавая была, але не жыве — і нічога не зробіш. Старэйшым дзецям няма як, бо ў школу ходзяць, а моладзь таксама не хоча гэтым займацца. Яшчэ нейкіх дзесяць гадоў таму назад маладыя дзеўкі ішлі ды пільнавалі. А цяпер абы-куды пойдзе на працу, а пільнаваць не хоча. А, зрэшты, навошта каму пільнаваць чужых дзяцей!..

— Зінка нават плача, бо страшна ісці на работу, а няма каму дзіця пільнаваць. Кажа, хоць ты работы выракайся, ці як, аж шкада жанчыны, — сумна гаворыць маладая.

— Каб гэта ў горадзе, то яшчэ іншая справа, — ківае галавою старэйшая, — а на вёсцы горш. У горадзе яслі, прадшколле, а тут нічога.

— Ну, вось! — злосна гаворыць маладая, — нічога і дзіўнага, што на гэтай вёсцы ніхто сядзець не хоча.

**Аўрора**

людзях, па сваім слове? Даходзілі да нас весткі аб варварстве гітлераўскіх акупантаў на нашай зямлі, аб штодзённых расстрэлах і гвалтах. Але нічога я не ведаў пра лёс сваіх бацькоў, братоў і сёстраў... На працягу шасці гадоў аніякай вестачкі! А ведаць хацелася...

І тут я прыгадаў расказы іншых даўнейшых салдат — герояў з-пад Монтэ-Касіна, якія перажывалі падобную драму. Гаварылі мне аб гэтым і Юрка Налівайка з Валіл, і Сяргей Кубаеўскі з Орлі, і Канстанцін Шыманюк з Семяноўкі, і Мікалай Мілеўскі з Беластока. Іван Бартнічук яшчэ дадаў:

— Ды там, у Англіі, з намі было, як з тым неграм. Паляк зрабіў сваё — і можа адыйсці! Патрабавалі ад нас, каб мы згадзіліся яшчэ два гады праслужыць у англійскім войску, а калі не, дык вон у Польшчу! Толькі каб ведаў я тады, што ў маіх родных Рагачах застану адны развалiны бацькоўскай хаты, а мая сям'я выехала ўжо ў Савецкі Саюз, дык пісаўся б я адразу на паездку ў гэтую краіну, дзе зараз мае сёстры і абодва браты, адзін у Брэсце, гэта Мікалай, а другі — аж у Данбасе, гэта Павел. І ўсе жывуць прыпяваючы...

У Данбас — для мяне задалёка, але ў Брэст, магчыма, неўзабаве ўдасца мне выбрацца. Мікалай у Брэсце, пасля смерці Макарава, кіруе там нейкім камітэтам партызан-ветэранаў. У атрадзе „Чэкіст“ быў ён спачатку сувязным, а затым, уцякаючы ад гітлераўскай помсты, уліўся ў гэты атрад. Калі Чырвоная Армія пагнала фашыстаў з нашай тэрыторыі, дык і Мікалай і брат Павел паспелі яшчэ паваяваць у радах адроджанага Войска Польскага...

Іван Бартнічук абсталяваўся ў Мілейчычах. Ажаніўся.

— Мая жонка таксама трымала сувязь з партызанамі, — адзначае Іван Бартнічук. — Яна ім есці насіла, бялізну мыла...

Правілі яны разам працавітае жыццё ціхіх, руплівых сялян. Пагадавалі дзяцей, дачакаліся ўнукаў, якія вось бестурботным гоманам запаўняюць дзедаву хату, што на вуліцы Браварнай у Мілейчычах. І з гонарам паказваюць мне знакі баявой славы свайго дзядулі, сярод якіх ёсць памятны Крыж Монтэ-Касіна, знак адрознення 5 Крэсавай пяхотнай дывізіі з белавежскім зубрам і іншыя.

— Стараўся я пра пенсію для ваенных інвалідаў, — з жалем гаворыць Іван Бартнічук. — На жаль, мне яе не прызналі, хаця я двойчы быў на лекарскай камісіі і ў Бельску і ў Беластоку. А я ж — двойчы паранены пад Монтэ-Касіна. Давядзецца мне ехаць да Яблонскага. Гэта наш баявы калега.

Што ж, ад сябе я жадаю поўнай удачы ў гэтых намаганнях за слушную справу. Жадаю ўдачы, добрага здароўя і спакойнага жыцця. Усяго вам найлепшага, Іване Бартнічук! Вам і вашай сям'і!

**Віктар Рудчык**




## ПЯЧОНКА, ФАРШЫРАВАНАЯ ПА-ГОМЕЛЬСКУ

На паўкілаграма. ялавічнай пячонкі трэба ўзяць 60 г саланіны, 2 цыбуліны, 3-4 сталовыя лыжкі алею, 1 морквіну, 1 пятрушку (альбо сэлер), 1 сталовую лыжку мукі, перац, соль.

Пячонку нарэзаць скрылькамі таўшчынёю 1,5 см. Збіты скрылёк саланіны (таўшчынёю каля 0,5 см), палажыць на кавалак пячонкі, а наверх даць крыху падсмажанай цыбулі. Дадаць соль і перац, пасля чаго пячонку загарнуць, памачыць у муцэ і пакласці ў гарачы алей на 2-3 мінуты. Тады пячонку палажыць у каструлю і тушыць у невялікай колькасці вады, дадаўшы туды гародніну: цыбулю, моркву, пятрушку ці сэлер.

## ФАРШЫРАВАНЫ ЯЗЫК

На вялікі ялавічны язык трэба ўзяць 40 г булкі, 2 сталовыя лыжкі малака. 40 г зялёнага гарошку, 2 яечкі, 5 лыжак жэлаціну. невялікую морквінку, зеляніну, соль.

Зварыць ялавічны язык, зняць з яго скурку, паліўшы халоднай вадой, і астудзіць. Тады язык разрэзаць уздоўж, але не да канца. Выразаць з языка сярэдзіну і змалоць яе ў мясарубцы, пасля чаго змяшаць з намочанай (у малацэ ці ў мясным булёне) булкай, сырым яйцом і пасечанай зелянінай, дадаць соль і перац.

Язык, напоўнены фаршам, завязаць ніткай, а пасля гэтага крыху падварыць яго ў невялікай колькасці мяснога булёну і астудзіць.

Халодны язык парэзаць на кавалкі (2-3 кавалкі на порцыю), палажыць на кожны кавалак зялёны гарошак, яйцо і моркву і заліць разведзеным жэлацінам.

**Падрыхтоўка жэлаціну.** Жэлацін (у кавалках) намачыць у халоднай вадзе на 2-3 гадзіны, выціснуць, дадаць гарачы мясны булён, працадзіць праз сурвэтку, перамяшаць і даліць палову бялкоў, збітых з халодным булёнам. Давесці да кіпення далажыць тыя збітыя бялкі, што засталіся, і варыць на малым агні на працягу 20-30 мінут. Гатовы жэлацін працадзіць.

## СВІНЫ РУЛЕТ

На паўтара кг свініны трэба ўзяць 2 яечкі, 70 г саланіны, 1 морквіну, 3-4 зубкі часнаку. соль.

З мяса зрабіць вялікі пласт таўшчынёю 3-4 см і выраўнаць яго. Палажыць на ім дробна нарэзаныя: саланіну, моркву, крутыя яечкі і часнок. Пасаліць, загарнуць мяса ў рулет, завязаць і зварыць.

**Гаспадыня**

(Працяг са стар. 7)

## ВУЧОНЫЯ ПРА БЕЛАСТОК

ларусы ў Польшчы як частка беларускай нацыянальнасці". Найбольш, паводле даследчыкаў, у Беластоку „палякаў беларускага паходжання", якія трывала не звязаны з інстытуцыйнымі формамі беларускай дзейнасці. Даволі вялікая група — гэта „польскія беларусы", якія адчуваюць сябе часткай беларускага народа, хаця ў вялікай ступені зінтэграваны ўжо з палякамі". Беларусы ў Польшчы — гэта самая актыўная група дзеячоў і творцаў беларускай культуры ў Польшчы.

„Праблема беларускай меншасці вельмі складаная і патрабуе далейшых даследаванняў. прыняцця пад увагу многіх фактараў і крытэрыяў ацэнкі і ўкладу сіл, а вынікі даследаванняў могуць быць асновай да дыскусіі, важнай для ўсіх жыхароў Беласточчыны", — сцвердзілі А. Садоўскі і Э. Тарноўская.

**М. Лукша**




Дарагое Сэрцайка! Што рабіць, як жыць, парай мне! Закахаўся я ў дзяўчыну без памяці. Мы з ёю вучымся разам у палітэхніцы. Праз год заканчваем школу, і можна было б фактычна жаніцца. Ды вось тут вынікла бяда: мае бацькі ніяк не хочуць згадзіцца на шлюб.

Нехта ім данёс, што мая дзяўчына, Аня, вельмі цяжка хворая, і яны перапужаліся. Я ўжо даўно ведаў, што ў Ані цяжкі рэўматызм, і яе стан пагаршаецца з дня на дзень. Яна часта ляжыць у бальніцы, а цяпер то ўжо нават кульгае на адну нагу. Але навошта было гаварыць пра гэта бацькам: каб толькі перажывалі? Я ж бы і так не змог кінуць Аню...

Сэрцайка! Каб ты толькі бачыла, якая яна прыгожанькая! Нягледзячы на хваробу, твар яе свежы, як ружа, а сама яна такая прыемная, што жыцця з іншай дзяўчынай не ўяўляю.

Ну, а вось бацькі не згаджаюцца на шлюб. Гавораць: нашто яна табе? Знайдзі здаровую! Хто вам дзяцей будзе даглядаць? — і г.д. Мы нават з Аняй пра ўсё ўжо думалі, і яе маці згаджаецца нам дапамагаць. Бо Ані нельга бялізны нават мыць, нічога цяжкага падымаць і наогул нельга прастудзіцца.

І цяпер мне здаецца, што мае бацькі ўсё ж мне дапамагчы не хочуць, калі так востра паставілі справу. А пра мае пачуцці зусім не думаюць. Як іх пераканаць, што я Аню проста кахаю?

**Міша**

Міша! Бацькі — сваім дзецям не ворагі. Але інакш думае маці тваёй Ані, інакш — твая. Яе маці цешыцца, што Аня, хоць і цяжка хворая, знайшла чалавека, на каханне і дапамогу якога можа разлічваць. Яна рада, што хтосьці пакахаў яе, што будзе ў яе нармальная сям'я, што, можа, Аня народзіць нават дзіця, а яна, маці, для якой хвароба дачкі ператварылася ў сапраўднае пекла, то ўжо дапаможа, не шкадуючы апошніх сіл.

Для тваіх жа бацькоў рашэнне аб вашым шлюбе стала праўдзівай трагедыяй. Ты — малады, здаровы юнак, думаюць яны, мог бы ўзяць сабе дзяўчыну здаровую і прыгожую, з якой мог бы спакойна жыць, гадаваць дзяцей і цешыцца радасцямі жыцця. Такая дзяўчына апекавалася б табою, клапацілася б пра цябе, як маці. А тут — будзе наадварот. Усё жыццё, думае твая маці, ты будзеш прысуджаны на апеку над хворай жонкай. Ты будзеш сядзець каля яе ложка, варыць, падаваць ёй, сціраць сабе і дзецям. Не пойдзеце на забаву, не паедзеце ў падарожжа. Не! Навошта засланяць сабе свет? — здаецца ім. І тут пра твае пачуцці яны забыліся.

Пагавары з імі сардэчна. Скажы, што шчасце бачыш толькі побач з каханай, што свет без яе здаецца табе сумным і шэрым. Скажы, што хворыя — таксама людзі, а лёс бывае ласкавы, і можа ў вашым будучым жыцці якраз нешта пасвятлее. Здараюцца ж выпадкі, што вельмі хворыя людзі пасля выздараўліваюць, і не заўсёды тыя, што спачатку здаровыя, бываюць здаровымі да канца.

Веру, што твае бацькі цябе зразумеюць. Рабіць жа ім на злосць і жаніцца паціху — не раю, хаця гэта нават у модзе.

**Сэрцайка**

# СОННІК

26

**Газета** — непрыемныя звесткі.

**Газіраваныя** напіткі піць — неспакойнае жыццё.

**Гайданка** (гушкалка, арэлі) — няўпэўненасць і няпэўныя вынікі ў справах, інтарэсах.

**Гойдацца** — кароткая радасць.

**Галава** лысая — пазбягай неразважлівых учынкаў; адрэзаная — задавальненне ў жыцці; вялікая — вялікі страх: прыгожая — цябе кахаюць; мыць — праца і даход; астрыжаная — няшчасце; жывёлы — непаразуменні; адрэзаць іншаму — карысць; з прыгожай укладкай валос — дарэмныя намаганні.

**Галавакружэнне** — цябе ашукаюць.

**Галантарэйная** крама — шчаслівае каханне.

**Галерэя** з карцінамі — набудзеш новых ворагаў.

**Галіна** зялёная, жывая — шчаслівая будучыня; сухая — няшчасце, бяда.

**Галку** чуваць, як крэкча — страта гонару, нездавальненне.

**Галопам** ехаць — перамагаць перашкоды.

**Галота** — засмучанні і прыкрасці.

**Гальштук** доўгі завязваць — хвароба, болі горла; развязваць — выздараўленне.

**Гаманіць,** шумець — непрыемныя вынікі.

**Ганак** — небяспечнае павышэнне, ганарлівасць.

**Ганарлівец** — цябе высмеюць.

**Гангрэна** — страта сяброў, прыяцеляў.

**Гандаль** — шчасце ў латарэі; гандляваць рыбай — няпэўныя задавальненні, радасць, пацеха.

**Гандляр** — палепшыцца быт, матэрыяльнае становішча.

**Гараскоп** — трывога і няшчасце.

**Гарачая,** азартная гульня — удзельнічаць у ёй — вялікія страты; выйграць — нявернасць; прайграць — вернае сэрца.

## ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ

Пачынаючы з сённяшняга нумара, будзем змяшчаць у „Ніве" **расклады руху паяздоў і аўтобусаў** са станцый у Бельску, Гайнаўцы, Сямяцічах, Саколцы. Яны важныя ад 1 чэрвеня 1986 г. да адклікання. Раім захоўваць іх для скарыстання.

**РАСКЛАД РУХУ ПАЯЗДОЎ З БЕЛЬСКА ПАДЛЯШСКАГА**

| ПРЫЕЗД | КІРУНАК | АД'ЕЗД |
|---|---|---|
| 5.18, 6.52, 10.11, 15.03, 16.43, 18.21, 21.49, 23.30 | Беласток | 4.30, 6.00, 7.48, 11.55 15.10, 18.28, 21.57 |
| 7.44, 17.57, 21.55 | Белавежа | 5.41, 18.30, 21.59 |
| 5.36, 7.35, 11.53, 14.36, 18.25, 21.23 | Чаромха | 6.54, 10.14, 13.53, 15.05 16.45, 18.40, 22.08, 23.37 |
| 4.27, 5.25, 7.44, 11.35, 15.00, 17.57, 21.55 | Гайнаўка | 5.41, 7.55, 12.50, 15.14 18.30, 21.59 |
| 5.36 | Люблін | 23.37 |
| 5.36, 11.53, 18.25 | Седльцы | 6.54, 10.14, 15.05, 23.37 |

Увага! На станцыі Бельск-Падляшскі можна набыць білеты на экспрэс „Пагоня" Беласток-Варшава-Беласток.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




Выступае калектыў „Беларусачкі“ з Дашоў. Вядзе яго настаўніца Валянціна Дула

## ЯК ДЗЕЦІ...

11-гадовы Андрэй выйшаў у Дзень дзіцяці на сцэну беластоцкага амфітэатра і задэкламаваў верш, напісаны ім самім, а прысвечаны маці і ле дзіцяці:„Мама калі яно яшчэ ў табе, памятай што твая нянавісць, пагарда злосць адзавецца ў яго жыцці...“ А гэта ўсё будзіць войны паміж народамі, сярод якіх растуць дзеці. З вершамі аб міры, сяброўстве, дабры і дабраце выступілі і іншыя дзеці.

Да дзяцей і іх бацькоў звярнуўся дац. В. Панэк. Ён успомніў аб дзецях свету, якія ў такія светлыя дні гінуць ад голаду і ад бомбаў. Шчасце нашых дзяцей і шчасце будучых пакаленняў залежыць ад таго, ці зможам захаваць мір, братэрства і згоду між народамі. Гэта важна асабліва цяпер, калі над светам павісла пагроза атамнай вайны і абсалютнага знішчэння ўсяго і ўсіх, калі да ўладання сусветам рвуцца такія людзі, якія быць можа, з малаком маці высмакталі прагнасць і нянавісць. А, можа, яны ніколі не былі дзецьмі?..

Амфітэатр запоўнены. Прыйшлі дзеткі з татамі і мамамі, прыгожа апранутыя, вясёлыя. Узялі з сабой свае лялькі, сваіх сабачак. Не паўстрымаеш іх на адным месцы. Бегаюць па ступеньках, з півам у фоліевых торбачках і саломкамі ў жменьцы. Некаторыя першы раз выступаюць на сцэне. Пакуль што яшчэ з бацькамі.

На заканчэнне свята выступаюць лаўрэаты дзіцячага агляду „Беларуская песня — 86“, дзеці, якія ўжо добра азнаёмлены са сцэнай і мікрафонам, а той часам трэба было вельмі нізка апускаць, каб маленькі спявак дацягнуўся да яго. Найбольш спадабаліся дзяўчаткі з Дашоў. Вельмі добра, што выступілі нашы дзеці з дзіцячым рэпертуарам.

**Міра Лукша**
**Фота С. Грынявіцкага**






У адным мястэчку жыла бабка і ўнучка Райка. Бабуля рабіла ўсё, каб унучцы было добра. Сама хадзіла ў краму, сама мыла, варыла і прыбірала ў хаце. Райка цэлыя дні траціла на гульні. То ў хованкі з сябрамі гуляе, то на каруселі катаецца, а то ў пяску корпаецца, а каб памагчы бабулі — часу не мае.

Так ішоў дзень за днём. Але здарылася няшчасце. Бабка захварэла. Лягла ў пасцель і ўстаць не можа.

— Раечка, унучка, — просіць бабуля. — Схадзі ў краму і купі хлеба.

— Не магу я!

— Чаму? — дзівіцца бабуля.

— Мяне трэцяя рука не пускае, — адказвае Райка.

Бабуля махнула рукою і нічога не сказала. Ведала, што ўнучка ісці не хоча.

Паляжала трошкі бабуля ды зноў да Райкі:

— Падай, унучка, вады.

— Не магу я, мне трэцяя рука не дазваляе, — адказвае Рая. — Яна мяне на двор выпыхае, каб з дзецьмі гуляла.

— Калі так, дык ідзі сабе і не вяртайся, пакуль розуму не набярэшся, — сказала бабуля.

А Райка пабегла на двор да дзяцей. Не паспела прывітацца з сяброўкамі, як у яе з-пад світэра высунулася трэцяя рука і пачала забіраць у дзяцей цацкі. А дзяўчынка нічога не магла зрабіць, нават сказаць слова. Дзеці пачалі крычаць на Раю, але яна маўчала і рабіла сваё. Параскідаўшы ўсе цацкі, яна ўдарыла найменшую дзяўчынку па твары і пачала ўцякаць. Нікому непрыкметная рука пхала дзяўчынку ў плечы з усяе сілы.

Так яна дабегла да лесу. Тут трэцяя рука выскачыла з-пад світэра і змянілася ў страшыдла. Галава ў яго была вялікая, як рэшата, і зялёная. Адно вока велізарнае, як памідор, нос, як у бусла, а губы, як кілбасы. Ні рук, ні ног страшыдла не мела.

— Ратуйце! — закрычала дзяўчынка.

— Ха-ха-ха! — зарагатала страшыдла. — Позна крычаць, трэба было бабулю слухаць, а не мяне клікаць!

— Я... я цябе не клікала... — адказала спалоханая дзяўчынка.

— Не?! А хто гаварыў „мая трэцяя рука мне не дазваляе?“ Цяпер ты будзеш маёй слугою.

— А чаму ты называешся трэцяя рука? — адважылася спытаць дзяўчынка.

— Хочаш ведаць, дык слухай. Мая маці Барыха, каралева лясоў і звяроў. У мамы нас шасцёра — тры дочкі і тры сыны. Мама называе нас так: Першая рука, другая рука, трэцяя рука. Першая нага, другая нага, трэцяя нага. Найважнейшыя ў сям'і Першая рука і Першая нага, а ўсе іншыя менш важныя, таму і пішуцца з малой літары.

— Дык вы і пісаць умееце? — здзівілася Райка.

— Пэўна што ўмеем. Нас бацька Лясны Гук навучыў пі-

(Працяг на стар. 10)

(Працяг са стар. 9)




саць і чытаць. Ён вучыць гэтаму маленькіх лясных чалавечкаў — гномаў.

— Гномы ж бываюць толькі ў казках! — пярэчыць Райка.

— Няпраўда, — кажа страшыдла. — Зараз ты іх пабачыш.

І трэцяя рука пайшла лясной сцяжынкай, а за ёю паслухмяна падалася і Райка. Так яны прыйшлі да старога дуба.

Тут праваднiца спынілася і, кланяючыся, сказала:

— Добры дзень, паважаны тата. І вы, лясныя чалавечкі! Прывяла вам памочніцу.

— А што ты ўмееш рабіць? — спытаў у Райкі Лясны Гук.

— Толькі гуляць і спяваць! — апусціла галаву Райка.

— Спяваць? Гэта добра. Будзеш вучыць нашых гномікаў спяваць. Заспявай што-небудзь.

Райка заспявала „Васількі". Спадабалася Лясному Гуку песня.

— Няхай яна ў нас застаецца, — задаволена кіўнуў ён сваёй дачцы трэцяй руцэ.

Цэлы год прабыла ў лесе Райка. Вучыла гномікаў, даглядала іх, сцяліла ім пасцель, замятала. За дзень так нагаруецца, што ледзь да свайго дуба, дзе спала, далазіць і засынае.

— Ты добра працавала, — сказаў ёй аднойчы Лясны Гук. Вазьмі вось гэту зялёную скрыначку і ідзі дадому, да бабулі.

— А ці бабуля мяне прыме? — непакоіцца Райка.

— Ідзі, ідзі! Будзе ўсё добра, — адказвае Лясны Гук.

Райка бярэ зялёную скрыначку і адразу бачыць сябе ля бабулінай хаты. Бабуля сядзіць на лаўцы, а вакол яе Райкіны сяброўкі.

— Вось добра, — кажа бабуля. — што ты зноў да нас вярнулася. — Дзе ты прападала?

Расказвае Райка пра свае прыгоды за цэлы год, пра працу ў лесе і паказвае бабулі і сяброўкам зялёную скрыначку. А ў ёй тры кніжкі: „Што рабіць, каб быць добрым чалавекам?", „Як любіць расліны, звяроў і кніжкі?" і „Як шанаваць людзей, сябе і рэчы?"

— Добрыя кніжкі, — кажа бабуля. — Шкада толькі, што ты чытаць не ўмееш.

— Няпраўда, — крычыць Райка. — Я ўмею і чытаць і пісаць.

— Вось і добра, — цешыцца бабуля. — Чытай і запамінай, як трэба жыць, і вучыся.

Райка ківае галавою ў знак згоды.

Цяпер Райка ходзіць у школу. Чытае кніжкі, піша, памагае бабулі і, калі мае час, то гуляе з сяброўкамі. І толькі часам задумаецца: што было б, каб трэцяя рука не вывела яе ў людзі!

**Аўрора**

**Юрка Сакалоў**

# ПРЫЗНАННЕ

З дзяцінства ранняга
Мне, з памяці маёй
Бацькоўскі край
Аддадзены навечна —
Блакіт азёр
З сумуючай вярбой,
Вясёлка над ракою
Шумнацечнай.

Я тут узрос
Сярод бязмежных ніў
Пад мірным небам
І гарачым сонцам,
Я першы крок адсюль
У свет ступіў
О, родны край,
Любімы мой бясконца.

Я сын твой, край,
І тут мая зямля,
Ніколі ад цябе
Не адступлюся.
Табе з дзяцінства
Увесь адданы я,
Цябе я слаўлю
І табою ганаруся.

**Сямён Пацёмкін**

# ПЧАЛА І ЖУК

**Байка**

Пчала ў садку заўзята
працавала,
Нектар па кропельцы
збірала.
І кветкі ёй дарылі сок,
Напоен быў духмянасцю
садок.

Той самаю парою
Жук вылез на падворак
з гною
— А-а, добры дзень,
руплівая суседка,
Я назіраю за табой
нярэдка.
Скажы, якую асалоду
Ты маеш з мёду?
Пчала ў адказ:
— Як папрацуеш,
То ў кожнай справе
Мёд адчуеш.

## РАСКАЗЫ АБ ПРЫРОДЗЕ

**Мікола Корзун**

# СТАРАЯ ЯЛІНА

Яліна была дарагая не толькі для мяне, але і для вавёрак. Яна расла за нашай хатай, на тлустым чарназёме, і штогод голле яе трашчала ад цяжкіх, нібы адлітых з медзі, шышак. Зімою я любіў назіраць, як на зялёным дрэве вавёркі лушчаць шышкі, ласуючца духмяным насеннем.

...У той дзень я сказаў дома:

— Будзе дождж!

— Хмара над пасёлкам? — спытала бабуля.

— Дождж пойдзе пасля абеду.

— Які дождж! — не паверыла бабуля. — Сонца ж у небе.

А я сказаў пра дождж з упэўненасцю. Чаму?

Аднаго разу было надта горача. Я прыйшоў на луг, схаваўся ў цянёк, пад густое голле вярбы, што здалёк нагадвала стог сена. Тонкія галінкі звісалі да самага долу. Лісцікі на іх вузенькія, прадаўгаватыя, з аднаго боку зялёныя і гладкія, як шкло, а з другога — шэранькія, аксамітныя. Раптам на мяне ўпалі халодныя кропелькі вады, хоць неба было чыстае. А праз некалькі гадзін пайшоў дождж.

З таго часу я прыкмеціў: калі вярба заплача — абавязкова будзе дождж.

Вось і ў той дзень вярба прадказала мне, якое будзе надвор'е.

Пасля абеду я пачаў узірацца ў неба. Яно было чыстае-чыстае, без адзінага воблачка.

Я занепакоіўся. Ды вось у блакіце з'явіліся першыя аблачынкі. І — дзіва! — недзе за лесам працяжна азваўся гром.

Пасёлак, сады, луг — усё заліта яркім сонцам. А з-за лесу насоўвалася чорная хмара, разпораз чуваць былі цяжкія раскаты грому.

Неўзабаве хмара закрыла паўнеба, і над зямлёй павісла густая шэрая сетка дажджу.

У нашай хаце стала цёмна, як вечарам. Я даткнуўся лбом да шыбы і ўбачыў, як фіялетавая маланка ўдарыла па яліне. Старое дрэва загарэлася,ператварылася ў гіганцкі вогненны слуп.

Доўга бушавала навальніца, як з вядра ліў дождж. А калі ў небе зноў зазззяла сонца, я выбег з хаты. Са слязьмі на вачах глядзеў на тоўсты чорны камель, на якім густа выступілі кроплі смалы. Здавалася, камель таксама плача.

Ні ў той дзень, ні заўтра вавёркі не з'явіліся.




* * *

— Ведаеш, Міша, мая бабуля найбольшая чараўніца.

— Чаму?

— Учора быў яе дзень нараджэння, і яна так падзяліла паміж намі торт, што кожны з нас падумаў, што атрымаў найбольшы кавалак.

* * *

Сланы і мышы гулялі ў футбол. Пасля заканчэння матча капітан сланоў гаворыць:

— Прабачце, што мы вам часам на хвасты наступалі.

— Нічога, — смяецца капітан мышэй. — Мы затое вас больш фаўлявалі.

* * *

— Што? За такога малога сабачку такія грошы! Можам гаварыць аб палавіне.

— А якую хочаце, пярэднюю ці заднюю?

* * *

— На якой вуліцы ты жывеш? — пытаецца міліцыянер у хлопчыка, які заблудзіўся і плача.

— Я не жыву на вуліцы, а дома, — адказвае малы.

* * *

— Я магу вытрымаць пад вадою паўгадзіны, — хваліцца Якуб.

— З аквалангам? — пытаюцца хлопцы.

— Не, без яго.

— Што, ты нас дурнямі лічыш?

— Не, праўда! Магу паўгадзіны ў вадзе сядзець, толькі галаву выстаўлю.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Волошина, 9, кв. 2 Вишневской Людмиле. 15 год.

* * *

СССР, 346527, г. Шахты-27, ул. Текстильная, 19, кв. 3. Пешковой Любе. 5 клас.

* * *

СССР, 346916, Ростовская обл., г. Новошахтинск, ул. Пичугина, 24, кв. 4. Василенко Ире. 6 клас.

* * *

СССР, 344041, г. Ростов-на-Дону, ул. Песчанокопская, 14. Морозовой Светлане. 15 год.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Островского, 53. Василенко Люде. 8 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Баррикадная, 12а, кв. 13. Поповой Юлии. 4 клас.

* * *

СССР, Ростовская обл., г. Новочеркасск, ул. Добролюбова 57. Крыловой Тане. 6 клас.

* * *

СССР, 233035, Литовская ССР, г. Каунас-35, ул. Медвделио, 21, кв. 37. Карташовой Ольге. 12 год.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл г. Шахты, ул. Мелиховская, 13. Нина Титова, 12 год.

* * *

СССР, 346527, Ростовская обл. г. Шахты-27, ул. Текстильная, 9, кв. 41. Серяк Роман. 5 клас.

* * *

БССР, 220073, г. Мінск-73, пр. Пушкіна, 56, кв. 53. Наташа Кучынская. 5 клас.

* * *

БССР, 220073, г. Мінск-73, пр. Пушкіна, 56, кв. 80. Інна Папова. 5 клас.

* * *

БССР, 220073, г. Мінск-73, вул. Альшэўскага, 25, кв. 56. Галіна Бернада. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 9, кв. 106. Андрэй Моўчан, 7 клас.

* * *

БССР, 220131, г. Мінск-131, вул. Гамарніка, 24, кв. 88. Наташе Кожар, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, 2 пер. Р. Люксембург, 3-А, кв. 137. Юля Агеева, 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 3, кв. 1. Света Канаплёва, 8 клас.

## АДГАДАНКА



Знайдзі дарогу праз лабірынт.



Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1




**Piątek 27 VI** — 9.30 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT — wiadomości. 10.10 Film dla II zmiany: „Problemat profesora Czelawy — pol. film fab. 11.10 Magazyn domatora. 11.35 Mój znajomy rogacz — film przyrodn. 11.50 Prawo na co dzień. 11.55 Cwicz z nami. 15.55 Nurt. 16.25 Program dnia i DT. 16.30 Majsterklepka. 16.55 Piątek z Pankracym. 17.20 DT — wiadomości. 17.30 Bez próby. 18.30 Gra o milion. 19.00 Dobranoc. 19.10 Studium. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 Film fab. 21.30 DT — komentarze. 21.55 Klub muzycznych wspomnień. 22.25 DT — wiadomości.

**Sobota 28 VI** — 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Dla młodych widzów — Sobótka. 10.30 DT — wiadomości. 10.40 Stare, nowe, najnowsze. 11.35 Dni Morza — Gdańsk. 12.25 Bariery. 12.55 TV Koncert Życzeń. 13.25 Opowieści biblijne — film dok. 13.45 Magazyn wędkarski. 14.05 Z Polski rodem. 14.30 Nie tylko bronią. 15.00 DT — wiadomości. 15.05 Antologia dramatu powszechnego: Pierre Corneille — „Cyd". 16.15 Dni Morza. 16.45 Kram. 17.15 Królowie mórz: „Hindusi" — film dok. 17.40 Losowanie Dużego Lotka. 17.50 Dni Morza. 18.05 Skarbiec. 18.35 Dni Morza. 19.00 Dobranoc. 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 19.55 Studio Mundial — Meksyk 86 (mecz o III i IV miejsce). 22.15 Czas — mag. publ. 23.05 DT — wiadomości. 23.15 Kino nocne.

**Niedziela 29 VI** — 6.45 Wszechnica rodziny wiejskiej. 7.10 Po gospodarsku. 7.35 Tydzień. 7.55 Program dnia. 8.00 Dla młodych widzów — Teleranek oraz film „Siedem życzeń" (7). 8.55 Transmisja otwarcia obrad X Zjazdu PZPR. 13.00 Spotkanie z piosenką. 14.00 Siedem anten. 14.45 TV Koncert Życzeń. 15.30 Letni koncert zespołów dziecięcych. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 19.55 Studio Mundial — Meksyk 86 — transmisja meczu finałowego oraz uroczystość zakończenia Mistrzostw Świata w piłce nożnej. 22.10 „Powrót do Edenu" (7) — austral. serial film. 22.55 DT.

**Poniedziałek 30 VI** — 10.10 Studio Zjazdowe. 17.15 Program dnia. 17.20 DT — wiadomości. 17.30 Spotkanie z piosenką. 18.00 Studio Zjazdowe. 18.45 Radar — mag. wojsk. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr TV: Aleksanden Fredro — „Śluby panieńskie". 22.30 DT — komentarze.

**Wtorek 1 VII** — 9.00 Teleferie — „Podniebne wakacje". 9.30 Kino Teleferii: „Dżokej Monika" — serial NRD. 10.00 Studio Zjazdowe. 10.45 Film dla II zmiany: „Avenida Paulista" (odcinek ostatni). 17.05 Program dnia. 17.10 Piosenka z dedykacją. 17.20 DT — wiadomości. 17.30 Spotkanie z piosenką. 18.00 Studio Zjazdowe. 18.45 TV Informator Wydawniczy. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Avenida Paulista" — serial brazyl. 21.20 DT — wiadomości. 21.40 Koncert galowy dla delegatów X Zjazdu — transmisja z Teatru Wielkiego.

**Środa 2 VII** — Teleferie — Krąg — magazyn harcerzy. 9.30 Kino Teleferii: „Dżokej Monika" — serial NRD. 10.00 Studio Zjazdowe. 10.45 Film dla II zmiany: „Republika Ostrowska" — serial polski. 11.40—12.55 Domator. 11.45 Wędkarstwo dla początkujących. 11.55 Zioła, ziółka... 12.05 Zielono nam. 12.20 Encyklopedia tatrzańska. 12.40 Małe, żarłoczne, pożyteczne — film przyrodn. 17.15 Program dnia. 17.20 DT — wiadomości. 17.30 Losowanie Express Lotka i Super Lotka. 17.40 Spotkanie z piosenką. 18.00 Studio Zjazdowe. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Republika Ostrowska" — serial polski. 21.10 DT — komentarze. 21.35 Stanisław Moniuszko — znany i nieznany. 22.20 DT — komentarze.

**Czwartek 3 VII** — 9.00 Kino Teleferii: „Tajemnica Zielonej Wyspy" — radz. film przyg. 10.00 Studio Zjazdowe. 10.45 Film dla II zmiany. Po filmie Domator: Szkoła dla rodziców — Gdy dziecko jest chore, Dziękuję nie palę, Wakacyjna apteczka, Bliżej siebie, W kręgu domowego ogniska, Historia najbliższa — „Plan Odbudowy Gospodarczej". 16.00 Transmisja obrad X Zjazdu PZPR. 17.20 DT — wiadomości. 17.30 Patrol. 18.00 Spotkanie z piosenką. 18.40 Sonda — Polskie ratownictwo morskie. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Program publicystyczny. 20.30 Film fab. 22.10 DT — komentarze. 22.30 Klub międzynarodowy. 23.10 DT — wiadomości.





# ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

| Дзень | Стыль новы | Стыль стары | Святы, імяніны | | Сонца усх.-зах. | Месяц усх.-зах. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| нядзеля | 29 | 16 | Пятра і Паўла | Ціхана, Яўтропія | 4.17-21.01 | 0.41-13.13 |
| панядзелак | 30 | 17 | Эмілії, Люцыны | Мануіла, Клімента | 4.18-21.01 | 0.52-14.26 |
| аўторак | 1 | 18 | Галіны, Мар'яна | Ляонція, Іпація | 4.18-21.01 | 1.00-15.40 |
| серада | 2 | 19 | Мар'і, Урбана | Іуды, Паісія | 4.19-21.00 | 1.04-16.53 |
| чацвер | 3 | 20 | Анатоля, Яцка | Іны, Рымы | 4.20-21.00 | 1.20-18.07 |
| пятніца | 4 | 21 | Інацэнта, Тэодара | Юльяна, Цярэнція | 4.21-21.00 | 1.42-19:18 |
| субота | 5 | 22 | Антаніны, Караліны | Галакціёна, Юльяны | 4.21-19.59 | 2.11-20.21 |

## ГАДАВІНЫ

**65 год таму назад**

2.7.1921 г. нар. беларускі мастак-жывапісец Галіна Азгур. Найбольш вядомыя яе карціны: „Жніво" (1947), „Асенні вечар" (1960), „Салаўінае лета" (1968).

**60 год таму назад**

5.7.1926 г. нар. беларускі літаратуразнавец і педагог Міхась Лазарук, аўтар шэрагу кніг па гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры, між іншым, працы „Беларуская паэма ў другой палавіне XIX пачатку XX стагоддзя" (1970). Выкладаў на Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта і на беларускім аддзяленні Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку. кансультаваў „Белавежу".

**50 год таму назад**

4.7.1936 г. нар. беларускі мастак-графік Іосіф Капелян, аўтар прац: „Стары Мінск" (1968), „Маці" (1970) і іншых.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Х з'езд ПАРП — з'езд працавітай стабільнасці • Свята беларускай культуры ў Беластоку • Што на поўдні Беларусі пасля аварыі ў Чарнобылі • На провады К. Буйло • „Белавежа" • Пра гістарычную карціну „Бітва пад Оршай" піша малады мастацтвазнаўца В. Сельвясюк • Абпаленыя вайной — пошукі І. Ф. Канавалава • Трагедыя людзей, пакрыўджаных лёсам • Ашуканствы ў малацэ • Дбайны гаспадар А. Навіцкі з Літвінавіч • „Ніве" адказвае Кураторыя пра школу ў Юшкавым Грудзе • Слухаем і спяваем „Ціхі вечар" • „Зорка" • Сэрцайка з дапамогай для дабітага Юркі • У „Сонніку" пра гарох, гарчыцу, гарэлку, • Расклад руху аўтобусаў са станцыі Бельск • Гадавіны • Тэлевізія • Гумар**

## У БГКТ

**28.6.86 — Ноч Купалы над Нарвай (каля Войшкаў)! Разам з беларускімі хорамі з Беластока, Бельска, Гайнаўкі, Гарадка, Рыбалаў шукаюць папарацъ-кветкі, скачуць праз полымя, пускаюць вянкі на рацэ і спяваюць, спяваюць усе, хто толькі туды прыбудзе.**

**6.7.86 — Такую ноч Купалы, толькі па-свойму, арганізуюць каля Нараўкі славутыя „Дубіны" на чале з П. Скепкам з удзелам хораў з Міклашэва і Нараўкі і ўсіх ахвотных. Пачатак а 18-й гадзіне.**

**6.7.86 — Фэстын БГКТ у Бярхлесе гм. Шудзялава.**

(Працяг са стар. 3)

### АБПАЛЕНЫЯ ВАЙНОЙ

падзе. Вядома: маці — удава, хворая на рака, няшмат змагла зрабіць. Адбудоўваўся былы франтавік, вырабляў поле, гадаваў і вучыў дзяцей, актыўна працаваў радным, судовым лаўнікам, быў ініцыятарам многіх грамадскіх пачынаў, у тым ліку пабудовы станцыі „Волька Ратавецкая".

Незаўважальна прыйшла старасць. Цяпер У. Галіцкаму 68 год. Яго тры сыны працуюць на фабрыцы сельскагаспадарчых машын у Чорнай Беластоцкай: Іосіф і Аляксандр — інжынеры, Кузьма — тэхнік. Гэта слаўныя людзі — імі ганарыцца фабрыка, цешацца бацька і маці.

У. Галіцкі ўжо на заслужаным адпачынку. Ён узнагароджаны Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Грунвальдскай адзнакай, медалём „За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 г.г." і іншымі. Ён па-ранейшаму жвавы, сяброўскі, мілы чалавек — такі самы, як у тыя адлеглыя часы на далёкім фронце ў Карэліі і бліжэйшым — на Паморскім Вале.

Гутарыў **М. Гайдук**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

**Спісак чарговых ахвяравальнікаў:**

475. В. Ягаўдзік (ЗША) — 5 долараў
476. Чарлі Пэйс (ЗША) — 10 дол.
477. Л. Вільямс (ЗША) — 10 дол.
478. К.С. (ЗША) — 10 дол.
479. В. Пашкевіч (Канада) — 75 дол.
480. А. Лук'янчык (ЗША) — 10 дол.
481. А. Семянчук (ЗША) — 10 дол.
482. Раман Г. Бандарук (ЗША) — 10 дол.

**Дзякуем.**

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6.**

**Тэлефон 28-89.**

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў:** Вера Валкавыцкая, Георгій Валкавыцкі (галоўны рэдактар), Мікалай Гайдук (намеснік галоўнага рэдактара), Валянціна Жэшка (карэктар), Міраслава Лукша, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Віктар Рудчык, Марыя Федарук (машыністка), Міхал Хмялеўскі, Яніна Чэрнякевіч, Ада Чэчуга (сакратар рэдакцыі), Сакрат Яновіч (тэхнічны рэдактар).

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul Wesołowskiego 1. Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł, rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
   — instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów:
   — osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli.
   — osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch".
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:
— do dnia 10 listopada na I kwartał, I półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
— do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego

Zam. 1026/86 r. Nakład 4.3000 egz. R-3.

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 28 чэрвеня а 18-ай гадзіне.

# РАННЯЮ ПАРОЮ

**Ранняю парою я цябе пазнала,**
**Мы гулялі ў полі да зары.**
**І тады цябе я шчыра пакахала, 2 разы**
**Ты адзін у сэрцы з той пары.**

**Непрыкметна лета з песняй праляцела,**
**Пажаўцелі нівы і палі.**
**Пад вакном рабіна ярка чырванее 2 разы**
**Адляцелі ў вырай журавлі.**

**Добра на радзіме, любы, мне з табою,**
**Ты адзін у сэрцы з той пары.**
**Хай ляцяць за мора гусі чарадою, 2 разы**
**Хай прыдуць завеі, халады.**



— Увесь водпуск тут пратарчалі — і хоць бы адна прыгода!






Гісторыя, якая здарылася з матросам Манюкевічам.

### МІКОЛКА

Міколка прыйшоў у басейн на першы ўрок плавання. Пасля гадзіны заняткаў ён сказаў трэнеру:

— Я думаю, на сёння хопіць.

— Чаму?

— Я больш не хачу піць.

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

Нядзеля. Сядзіць заяц на лавачцы ля цесцевай хаты.

— Дзе вашы? — пытаюць.

— Пайшлі да нашых.

— А ты што ж?

— Ды я не іхні.

### КАСТУСЬ

— Кастусь, навошта ты п'еш так многа вады?

— Я з'еў яблык.

— Ну і што ж?

— А памыць яго забыў.

### ДЗІЎНА...

— Закурыць не знойдзецца? — раптам пачуў В. позняй ноччу ў пустэльным глухім завулку хрыплы мужчынскі голас.

— Выбачайце, але я не куру, — спалохана пралепятаў В.

Як ні дзіўна, той што пытаў, ветліва папрасіўшы прабачэння, пайшоў.



Над Рулевічам вісіць сіла прывычкі.

Ён хоча ісці сваім шляхам, абапіраючыся на чужое плячо.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

„Бабуля, — чытае старая ліст ад унучкі, якая праводзіць водпуск на ўзбярэжжы Чорнага мора. — У мяне новае захапленне: амаль увесь вольны час забірае мне пінг-понг".

„Унучанька, — адказвае ў лісце бабуля. — Гэта не бяда, што ён іншаземец. Абы чалавекам быў добрым!".

*

Капітан патанаючага карабля звяртаецца да экіпажа:

— Хто-небудзь з вас умее маліцца?

— Я ўмею, сэр.

— Ну і дасканала! Тады маліцеся, а астатнім загадваю надзець выратавальныя камізэлькі. У нас якраз адной не хапае.

*

— Гэта прывезлі таго баксёра, якога збіў матацыкліст? — пытаецца доктар.

— Не, гэта той матацыкліст, што збіў баксёра.

### ДРУГОЕ ШЧАСЦЕ

Паблізу віру сустрэліся дзве рыбы, вялікая і маленькая. Нейкі час яны разглядвалі адна другую, затым вялікая рыба заявіла маленькай:

— Вялікія рыбы пажыраюць маленькіх!

— Я згодна. А дзе мы іх знойдзем?

Вялікая рыба разгубілася ад гэтага нахабства, узмахнула плаўнікамі і паплыла далей.

Марал: нахабнасць — другое шчасце.

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### УВАГА! КОНКУРС!

У Цюцькавічах адбудзецца конкурс вартавых сабак. Першае месца прысуджана сабаку па мянушцы Рэкс, які за кантрольны час паспеў укусіць пяцярых членаў журы.

#### САБРАНАСЦЬ ДАПАМАГЛА

У час юнацкіх спаборніцтваў па скачках у вышыню Мікалай Абдурыновіч скочыў і пабег. Суддзя, які спыніў юнага спартсмена праз 400 м, зафіксаваў новы рэкорд па бегу сярод скакуноў.



Капітан Піратовіч „хвалюецца" па-свойму, па-марскому.



Рацыяналізатар.



Кастусь быў кокам.

## Курёзы

### САПРАЎДНЫ БАЛЕЛЬШЧЫК

Лекар-стаматолаг свідраваў Х. Манюкевічу зуб і расказваў камусьці пра апошнюю гульню ў футбол. Ды так эмацыянальна, што Манюкевіч таксама заслухаўся і не адразу звярнуў увагу на тое, што яму свідравалі не зуб злева, а штучную скіўцу справа. Недаінфармаваным прыгадаем, што Х. Манюкевіч з'яўляецца вядомым дзеячом „Задрыпоніі".

### І БОГУ, І ЧОРТУ...

У адрозненне ад шматлікіх сваіх суайчынніц, якім не шанцуе з працай, жыхарка японскага горада Кіота Куміен Окада працуе адразу ж у двух месцах. Выступаючы ў двух увасабленнях, яна паспяхова сумяшчае грэшнае з праведным: ноччу дбае пра тое, каб засяліць душы людскія хмяльнымі напіткамі, а раніцой, змяніўшы раскошнае кімона на адпаведную, значна скрамнейшую, адзежыну, адпраўляецца ў будыйскі храм, каб паклапаціцца пра душы людскія. Бо Куміен — не толькі ўласніца начнога клуба, але і манашка.




**Перш чым хваліць чалавека, што ён добра ныpae, трэба пачакаць, пакуль ён вынырне.**